www.nv-online.info

# Народная Воля

№93 (3936)

28 лістапада 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС



РАІМ!

***У Вас баліць галава ад таго, што не ведаеце, якія падарункі зрабіць на Новы год родным, сябрам, саслужыўцам, суседзям?***

***Супакойцеся, калі ласка. Раім падпісаць іх на "Народную Волю" — і танна, і пасля атрымання кожнага чарговага нумара газеты будуць узгадваць Вас добрым словам.***

***Разам будуем новую Беларусь!***

ТЭМА ДНЯ

# «Мы не шчанюкі... Не трэба нас прэсаваць...»

*Непрыемны факт: Расія ўвяла забарону на продаж мяса яшчэ з васьмі беларускіх прадпрыемстваў. Такім чынам, агулам пад забаронай аказаліся пастаўкі з 19 беларускіх мясакамбінатаў. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, на іх прыпадае значны аб'ём экспарту беларускага мяса ў Расію.*

Паміж Беларуссю і Расіяй ужо была і "нафтавая вайна", і "газавая", і "малочная", і "цукровая". А вось "мясная" здарылася ўпершыню. Афіцыйная падстава забароны паставак, агучаная "Россельхознадзором", — "выяўленне ў прадукцыі беларускіх кампаній небяспечных для здароўя мікраарганізмаў". Беларускі бок у сваю чаргу заявіў пра тое, што нашы лабараторыі не знайшлі ў прадукцыі мясакамбінатаў ніякіх парушэнняў.

Заўважым, што гэта яшчэ не ўсе беды, якія зваліліся на беларускіх перапрацоўшчыкаў. Як мы паведамлялі, з панядзелка Расія зрабіла больш жорсткімі ўмовы транзіту раслiннай прадукцыі з Беларусі. Спасаліся на тое, што ўмоўныя транзітныя памідоры ды яблыкі замежнай вытворчасці асядаюць у Расіі: маўляў, Беларусь наладзіла канал кантрабанды.

На супрацьстаянне "вайне", што грымнула так раптоўна, беларускім бокам былі ўзняты ўсе сілы. Учора на перамовы ў Маскву накіраваўся першы віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Уладзімір Сямашка. Ён не з'яўляецца куратарам ні аграпрамысловага комплексу, ні гандлю, затое мае вялікі досвед цяжкіх перамоў — вось і задзейнічалі.

Адначасова на сур'ёзную размову з кіраўніком "Россельхознадзора" Сяргеем Данквертам накіраваўся былы беларускі прэм'ер Сяргей Сідорскі.

Аляксандр Лукашэнка таксама не застаўся ўбаку. Якраз учора ў Мінску ён сустракаўся з губернатарм Санкт-Пецярбурга Георгіем Палтаўчанкам. Гаварыў рэзка: *"Мы не шчанюкі... Не трэба нас прэсаваць... Я цярпець не буду..."* І было відавочна, што наконт чарговай гандлёвай вайны ён прамаўляе не для Палтаўчанкі і нават не для журналістаў. Лукашэнка дасылаў сігналы Уладзіміру Пуціну.

Што ж стаіць за гэтай "вайной"? Адна версія агучваецца ў Мінску: маўляў, беларуская прадукцыя танная, а нехта ў Расіі хоча "пагрэць рукі" на мясных пастаўках. Іншае тлумачэнне падзей агучваецца ў Маскве: кантрабанда. Маўляў, карыстаючыся момантам, Беларусь наладзіла пастаўкі імпартных прадуктаў (мяса, садавіны, гароднiны і гэтак далей і таму падобнага) пад выглядам беларускіх. У такой сітуацыі цяжка чакаць шчырасці ад любога з бакоў, таму звернемся да статыстыкі.

Як высвятляецца, у студзені-верасні 2014 года Беларусь паставіла на экспарт мясной прадукцыі менш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. І сур'ёзны рост аб'ёмаў паставак (у разы) назіраецца толькі ў адну краіну — Ганконг.

Адначасова мяса і жывёла завозіліся ў Беларусь. Напрыклад, у 8,6 раза павялічыліся аб'ёмы паставак туш і паўтуш свіней (у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года; і, дарэчы, свінінай нас забяспечыла Малдова), у 267 разоў павялічыліся пастаўкі свежых і ахалоджаных вантробаў буйной рагатай жывёлы, у 14 разоў — свежага і ахалоджанага мяса БРЖ, у два разы — ялавічыны... Прычым па некаторых пазіцыях і расійскія пастаўкі прадукцыі жывёлагадоўлі ў Беларусь павялічыліся ў разы. Так што пакуль цяжка разабрацца, хто тут правы, а хто вінаваты. Але з вопыту вядома, што такую цяжкую зброю, як "Россельхознадзор", Расія выкарыстоўвае ў дачыненні да дзяржаў, з якімі стасункі не проста дрэнныя, а вельмі дрэнныя. Менавіта гэта ведамства было задзейнічана ў "гандлёвых войнах" з Грузіяй, Малдовай, Украінай, Латвіяй, прычым акурат у тыя моманты, калі абвастралася палітычная сітуацыя.

Дык з-за чаго ж узнікла "мясная вайна"?

**Алена НОВІКАВА.**

ДАСЛОЎНА

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

*— Мяне сёння паводзіны расійскіх улад не проста здзіўляюць, а гнятуць. Калі ў бліжэйшы час не будзе нармалізаваны гандаль паміж дзвюма краінамі, мы вымушаны будзем рэагаваць. Што гэта за паводзіны такія?!. І пры тым ведаеце, што крыўдзіць? Вось паўстануць праблемы ў Казахстана, дапусцім, і Беларусі аднолькавыя — адзін званок, і ўсё добра з Казахстанам. У мяне складваецца ўражанне, што на прыкладзе Беларусі ў чарговы раз, узяўшыся то за газавую трубу, то за нафтавую, а цяпер за харчовыя пытанні, хочуць паказаць каму-небудзь ці ўсяму свету, правучыць некага. Але ж* ***мы не шчанюкі, каб нас за каўнер вадзіць,*** *прабачце за гэтую грубасць...*

*Тры месяцы мы на гэта не рэагавалі — бачу, што пытанні не вырашаюцца. Не трэба нас прэсаваць. Мы былі вам надзейнымі сябрамі і будзем. Але калі вы нас пачняце шчаміць, вы ведаеце, што я цярпець не буду.*

НАБАЛЕЛАЕ

## Словы Анатоля Калініна ды Богу ў вушы...

*Намеснік прэм'ер-міністра Беларусі* ***Анатоль Калінін*** *заявіў, што будаўніцтва ўсіх праблемных дамоў у Беларусі плануецца завяршыць да канца года.*

*"Ва ўрадзе абмяркоўваўся ўвод дамоў са звышнарматыўным тэрмінам будаўніцтва,* — сказаў журналістам Калінін перад пачаткам пашыранага пасяджэння Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па жыллёвай палітыцы і будаўніцтве. — *У мінулым годзе мы масава ўвялі такія дамы. На сёння іх дзевяць. Вырашыць праблему плануем да канца года".*

У наступным годзе плануецца ўвесці 5 млн кв.метраў жылля. *"Усе ЖБСК (жыллёвыя будаўнічыя спажывецкія кааператывы), якія пачалі будаўніцтва ў 2014 годзе, але не завяршылі яго, уключаны ў праграму на будучы год, дамы будуць пабудаваны. Што тычыцца ЖБСК, якія нават не пачалі будаўніцтва, яны будуць расфарміраваны з прадастаўленнем права будаваць на ўмовах дзяржаўнага заказу",* — адзначыў Анатоль Калінін. Паводле яго слоў, выдаткі дадзеных кааператываў будуць кампенсаваны.

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

Анатолий ЛЕБЕДЬКО

## Зачем народной власти спецклиника?

**У нас любят подчеркнуть, что в Беларуси рулит НАРОДНАЯ власть. Жирно так подчеркнуть. То бишь наша, своя в доску. Такая же, как и мы. Но возникают сомнения. Ну, например, ЗАЧЕМ народной власти спецклиника? Ведь если власть — часть народа, то она должна быть в одинаковом положении с рабочими МАЗа, дворниками столичного ЖЭСа, учителями Жабинки, участковыми Бешенковичей.**

**Единственная привилегия чиновника — зарплата, адекватная его профессионализму и вкладу в развитие страны. Но это — в теории. А на практике как-то все по-другому получается.**

**В соответствии с указом Александра Лукашенко от 3 ноября 2014 года в районе деревни Ждановичи, что гнездом ласточки приклеена к окраине Минска, вырастет комплекс зданий Клинического медицинского центра. Решено инвестировать народные деньги в самое ценное — здоровье белорусского чиновника. Первая свая будет забита уже в текущем году. А через три года элитное медицинское учреждение распахнет двери своих палат и кабинетов для правителя, министров, начальников главков и прочих "вертикальщиков", утомленных работой и думами о народе.**

**Вернемся к истории вопроса. 15 мая Александр Лукашенко предложил рассмотреть передачу в ведение городских властей здания Республиканского клинического медицинского центра Управления делами президента Беларуси, расположенного в центре Минска. Это четыре капитальных здания на улицах Красноармейской и Энгельса. За благородным порывом скрывалась истинная цель — строительство нового здания для лечения избранных в пригороде столицы.**

***"У нас есть так называемая президентская больница в ведении Управления делами президента, поэтому, чтобы не строить новые больницы, мы могли бы эту махину передать городу, а построить небольшой клинический центр для выполнения тех функций, которые сегодня выполняет больница при Управлении делами президента, построить где-то под городом или в городе соответствующую больницу",*** **— пояснял правитель.**

**Лукашенко, как истинный представитель народной власти, постарался завернуть новостройку в искреннюю заботу о народе:** ***"Это было бы намного дешевле для страны: мы отдаем Ладутько эту больницу, а вместо нее, чтобы город не тратил там 500 миллионов долларов на строительство новой больницы, могли бы в пять раз дешевле построить небольшой, компактный центр".***

**Лукавство в самом чистом виде. Во-первых, если чиновники терялись в лабиринтах махины, то оставьте себе одно здание, а три других передайте городу. Элегантно и дешево! А еще лучше откройте двери лечкомиссии для обычных минчан, проживающих по соседству. Что случится, если по одному коридору пройдут Мясникович и дядя Петя, Ермакова и тетя Дуся?.. У Обамы нет клиники для Белого дома, как и у Меркель, Комаровского и Оланда...**

**Во-вторых, новая спецклиника никак не вписывается в графу скромных бюджетных проектов. К примеру, детская поликлиника, рассчитанная на 350 посещений в смену, строительство которой ведется в Брилевичах, обойдется бюджету в 14 миллионов долларов. Получается, что забота о здоровье детей почти в 10 раз дешевле хлопот о здоровье чиновника!**

**В-третьих, вот куда можно было по уму истратить 130 миллионов долларов, направляемых на сооружение особой клиники. Школа №23 в столице, возводящаяся по индивидуальному проекту, обойдется налогоплательщику в 14 миллионов. Значит, таких чудо-школ можно было бы построить еще девять. Или 37 детских садиков, которых катастрофически не хватает во многих регионах страны (стоимость типового проекта — 3,5 миллиона долларов).**

**И последнее. Заказчиком по проектированию и строительству комплекса является КУП "Управление капитального строительства Мингорисполкома". Что из этого следует? Снова будут грабить жителей столицы. Опыт есть. В 2014 году минчане добровольно-принудительно поучаствовали в улучшении условий труда, жизни и отдыха Александра Лукашенко. Они оплатили 50% расходов на возведение, оборудование новой резиденции, которая обошлась налогоплательщику страны, по некоторым данным, в полмиллиарда долларов.**

**Работы по проектированию и строительству медицинского комплекса в Ждановичах будут финансироваться за счет республиканского бюджета и бюджета города Минска. Скорее всего, по принципу 50 на 50. Это значит, минчанам предстоит оплатить очередной счет в 65 миллионов долларов.**

**И ведь оплатим. Поморщившись. Посудачив на кухне. Понегодовав в курилке. Но когда-то захочется все это изменить. Возникнет желание ударить по этой руке, беззастенчиво и нагло шарящей в твоем кармане. Появится воля сказать: хватит! Верните нам право выбора!**

## Аб вяртанні беларускай мовы ў вышэйшую адукацыю Беларусі

### Зварот з'езда ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" да ўрада краіны

У апошні час кіраўніцтва Беларусі, у прыватнасці намеснік прэм'ер-міністра А.А.Тозік, неаднаразова звярталася да нашай грамадскасці па пытаннях пашырэння ўжывання дзяржаўнай беларускай мовы ў розных сферах жыцця краіны, у тым ліку і ў сістэме адукацыі.

Пагаджаючыся з гэтымі выказваннямі, XII з'езд ТБМ адзначае, што людзі павядуць дзяцей у беларускія школы толькі тады, калі на беларускую мову выкладання актыўна пяройдуць вышэйшыя навучальныя ўстановы.

У сувязі з гэтым дэлегаты з'езда прапануюць стварыць Нацыянальны беларускі ўніверсітэт, дзе ўсе прадметы будуць выкладацца па-беларуску, і надаць яму імя Францішка Багушэвіча — класіка беларускай літаратуры.

Адным з варыянтаў стварэння ўніверсітэта можа быць вылучэнне на базе БДУ выкладчыкаў і студэнтаў, якія могуць і хочуць выкладаць і вучыцца на роднай беларускай мове, у асобную структуру. Сябры ТБМ ужо сабралі некалькі дзясяткаў тысяч подпісаў грамадзян Беларусі ў падтрымку нашай прапановы і могуць у любы час перадаць іх уладам Беларусі.

З наступнага навучальнага года можна таксама стварыць у кожнай ВНУ краіны беларускамоўныя плыні і групы для будучых студэнтаў і абвясціць пра гэта ў СМІ.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## Новаму міністру абароны 47 гадоў

***На месца звольненага па ўзросце Юрыя Жадобіна прызначаны 47-гадовы генерал-маёр Андрэй Раўкоў.***

Апошнія некалькі гадоў Андрэй Раўкоў паспяхова прасоўваўся па службе. У 2009 годзе ён быў прызначаны на пасаду першага намесніка камандуючага войскамі Паўночна-заходняга аператыўнага камандавання Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. На момант прызначэння Раўкоў меў званне палкоўніка, а пасаду атрымаў "генеральскую". Менш як праз 2 гады — у лютым 2011-га — Андрэй Раўкоў стаў генерал-маёрам. А 16 лістапада 2012 года ўказам Аляксандра Лукашэнкі быў прызначаны камандуючым войскамі Паўночна-заходняга аператыўнага камандавання, якія дыслацыруюцца ў Барысаве Мінскай вобласці, дзе і нёс службу да ўчарашняга дня. Былыя падначаленыя Раўкова кажуць, што ён "*жорсткі і патрабавальны кіраўнік. З яго прыходам струна выканання ў вайсковай часці нацягнулася. Магчыма, таму яго і прызначылі міністрам".* Варта адзначыць, што сёлета Раўкоў атрымаў дзяржаўную ўзнагароду — ордэн "За службу Радзіме" III ступені.

Андрэй Раўкоў — беларус, але ваенную адукацыю атрымаў у Расіі. Ён нарадзіўся 25 чэрвеня 1967 года ў вёсцы Равяка Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці. У 1988 годзе скончыў з залатым медалём Маскоўскае вышэйшае агульнавайсковае камандное вучылішча. Гэтае вучылішча, дарэчы, размяшчалася непасрэдна ў Крамлі. У наступныя гады прайшоў шлях ад камандзіра ўзвода да камандзіра батальёна.

У 1999 годзе Раўкоў скончыў з залатым медалём камандна-штабны факультэт Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь. Службу праходзіў на пасадах начальніка штаба і начальніка (камандзіра) базы захоўвання ўзбраення і тэхнікі. Але затым Раўкоў зноў павышаў сваю адукацыю ў Расіі — у 2005 годзе ён скончыў з адзнакай Ваенную акадэмію Генеральнага штаба Узброеных Сіл Расійскай Федэрацыі. Быў прызначаны камандзірам 103-й асобнай гвардзейскай мабільнай брыгады. З 2006-га па 2012 год займаў пасады начальніка аператыўнага аддзела — намесніка начальніка штаба Заходняга аператыўнага камандавання, а таксама начальніка штаба — першага намесніка камандуючага войскамі Паўночна-заходняга аператыўнага камандавання.

Андрэй Раўкоў — рэдкі госць у СМІ. Некалькі інтэрв'ю ён даў толькі ведамасным газетам і толькі з прафесійнай нагоды.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

НА СВЯЗИ — КИЕВ

## Депутаты приняли присягу и приступили к работе

*Вчера в Киеве начала свою работу Верховная Рада нового созыва, сформированная по итогам недавних выборов. В ее состав вошли 423 депутата из 450 — пустующие места связаны с тем, что голосование не проводилось в Крыму, который Киев считает оккупированным Россией, и на части Донбасса, контролируемой сепаратистами.*

Новоизбранные депутаты хором приняли присягу. Собравшиеся минутой молчания почтили память всех украинцев, погибших во время спецоперации на востоке Украины.

На заседании присутствовали экс-президенты Украины Леонид Кучма, Леонид Кравчук и Виктор Ющенко, а также представители дипломатического корпуса.

В новой Верховной Раде Украины сформирована коалиция большинства в составе пяти фракций: Блок Петра Порошенко, Народный фронт, "Самопомич", "Радикальная партия Олега Ляшко" и "Батькивщина". В коалицию на сегодняшний день входят 302 депутата.

Стали известны имена лидеров фракций в новой Верховной Раде: Народный фронт избрал **Александра Турчинова,** фракция "Самопомич" — **Олега Березюка,** фракция Оппозиционного блока — **Юрия Бойко,** фракция "Батькивщины" — **Юлию Тимошенко,** фракция Радикальной партии Олега Ляшко — самого **Ляшко,** Блок Петра Порошенко — **Юрия Луценко.**

Спикером Верховной Рады нового созыва избран депутат от Блока Петра Порошенко **Владимир Гройсман.** Премьер-министром избран **Арсений Яценюк.** Голосование за новый состав Кабинета министров планируется провести 2 декабря.

АНОНС

## Колькі каштуе беларуская карупцыя? Чаму ва ўлады не атрымліваецца ўтаймаваць карупцыю? Што рабіць, каб мінімізаваць наступствы карупцыі ў Беларусі?

***11 палітычных і грамадска-палітычных арганізацый Беларусі: Аб'яднаная грамадзянская партыя, аргкамітэт па стварэнні жаночай партыі "Надзея", Партыя БНФ, аргкамітэт па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя", рух "За Свабоду", аргкамітэт па стварэнні партыі працоўных, аб'яднанне "Наш Дом", партыя "Зялёныя", аргкамітэт па стварэнні партыі "Рэформы і прагрэс", БСДП, Беларуская партыя левых "Справядлівы свет" — аб'ядналі намаганні па падрыхтоўцы свайго варыянта праграмы па барацьбе з карупцыяй.***

***Як вядома, афіцыйная ўлада, каб процістаяць карупцыі, зараз рыхтуе змены ў адпаведны закон. Апазіцыя ў сваю чаргу падрыхтавала "Антыкарупцыйную платформу".***

***Поўны тэкст яе — у наступным нумары "Народнай Волі".***

ПАРТНЁРСТВА

## Хольгер РАПІЁР, намеснік Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Германіі ў Беларусі:

# «Мова здымае бар'еры паміж людзьмі і краінамі...»

*На гэтым тыдні навучэнцам брэсцкай сярэдняй школы №7 ва ўрачыстай абстаноўцы ўручылі дыпломы па нямецкай мове. Гэтая школа з'яўляецца ўдзельнікам ініцыятывы "Школы: партнёры будучыні".*

У лютым 2008 года Федэральнае міністэрства замежных спраў Германіі распачало ініцыятыву "Школы: партнёры будучыні", якая падтрымлівае і звязвае глабальную сетку з 1500 школ-партнёраў, што маюць асабліва інтэнсіўныя стасункі з Германіяй. Да іх адносяцца нямецкія школы за мяжой і школы нацыянальных сістэм адукацыі краін-партнёраў, якія выдаюць дыпломы па нямецкай мове ці прапаноўваюць кваліфікаванае навучанне гэтай мове.

У Беларусі ў такой ініцыятыве бяруць удзел 23 школы, а каардынуе яе Пасольства Германіі ў Беларусі ў супрацоўніцтве з Цэнтральным упраўленнем школ за мяжой і Інстытутам імя Гётэ ў Мінску. І брэсцкую сярэднюю школу №7 запрасілі да ўдзелу ў праекце невыпадкова.

...Да мерапрыемства, на якое чакалі нямецкіх гасцей, у школе рыхтаваліся і выкладчыкі, і дзеці. Упрыгожвалі залу, юныя музыканты яшчэ і яшчэ раз рэпеціравалі свае выступленні, усё выглядала прыгожа і ўрачыста.

*"Дыпломы 1-й ступені нашы навучэнцы атрымліваюць ужо другі раз*, — распавядае мне школьная выкладчыца нямецкай мовы **Галіна КАВАЛЁВА**. — *У мінулым годзе атрымалі 37 такіх дыпломаў, зараз — 52. Гэта самы высокі паказчык сярод усіх школ Беларусі! Дарэчы, нашы школьнікі амаль заўсёды займалі прызавыя месцы на рэспубліканскіх алімпіядах па нямецкай мове, тут працуюць вельмі моцныя выкладчыкі. Яшчэ ў савецкія часы гэта была школа з паглыбленым вывучэннем нямецкай мовы, таму, як бачым, традыцыі працягваюцца. А праграма партнёрства дапамагае працаваць яшчэ якасней".*

Навучэнцы апладысментамі сустракалі гасцей мерапрыемства, на якім прысутнічалі намеснік пасла Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Беларусі **Хольгер Рапіёр,** каардынатар Цэнтральнага ўпраўлення па пытаннях школьнай адукацыі за мяжой **Вернер Ліберкнехт**, начальнік аддзела адукацыі Брэсцкага гарвыканкама **Анатоль Наскоў**, кіраўніцтва школы.

Дзеці гралі і спявалі, паказвалі сваё веданне нямецкай мовы, але кульмінацыяй мерапрыемства было, безумоўна, само ўручэнне дыпломаў. Школьнікі крыху хваляваліся, спадар Рапіёр віншаваў усіх намінантаў і жадаў ім не спыняцца на дасягнутым...

*"За час нашага ўдзелу ў праекце 117 вучняў старэйшых класаў атрымалі дыпломы 2-й ступені*, — адзначыла дырэктар школы **Святлана ЯЗЕРСКАЯ**. — *Гэта вельмі добрая лічба, але што такое лічбы? За кожнай з іх стаіць праца людзей — тых, хто арганізаваў праграму, вучняў, выкладчыкаў, бацькоў... Усе разам мы рабілі і робім вялікую справу".*






А закончыла сваё выступленне Святлана Аляксееўна і наогул цудоўнымі словамі, хоць і маюць яны іранічны падтэкст: *"Валоданне замежнымі мовамі — гэта добра і неабходна. Але я веру, што прыйдзе час, калі кожны з беларусаў будзе размаўляць на беларускай мове не горш, чым на замежнай".*

**— Як доўга будзе працягвацца гэтая адукацыйная праграма?** — пацікавіўся карэспандэнт "Народнай Волі" ў намесніка кіраўніка Пасольства Германіі ў Беларусі **Хольгера РАПІЁРА:**

— Цэнтральнае ўпраўленне па школьнай адукацыі за мяжой і Інстытут імя Гётэ ў Мінску пры падтрымцы Пасольства Германіі ў Беларусі хацела б і надалей працягваць падтрымку праекта. Мы на самай справе прыемна ўражаны вынікамі той работы, што праведзена, а таму нейкія ініцыятывы ў гэтым накірунку будзем толькі пашыраць.

**— Якія магчымасці адкрываюцца ў Германіі перад беларускімі школьнікамі, якія атрымалі нямецкія моўныя дыпломы?**

— Па-першае, беларускія навучэнцы могуць удзельнічаць у розных сумесных праектах па абмене школьнікамі. Па-другое, гэта цудоўная магчымасць далейшай вучобы ў ВНУ Германіі. Дыплом 1-й ступені дазваляе прайсці навучэнне ў нямецкім каледжы па падрыхтоўцы да ВНУ. Дыплом 2-й ступені дае права адразу ж паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы Германіі. І гэта насамрэч прываблівае многіх беларускіх школьнікаў, якія глядзяць у будучыню. Мова здымае бар'еры паміж людзьмі і краінамі...

**Алесь СІВЫ.**
**Фота аўтара.**

*Брэст—Мінск.*

### ДАРЭЧЫ

*Нямецкую мову ва ўсім свеце выкладаюць і вывучаюць больш чым у 100 краінах у школах і ВНУ.*

*У Еўрапейскім Саюзе (ЕС), у які (з 1 студзеня 2007 г.) уваходзяць 27 дзяржаў, нямецкая мова пераўзыходзіць усе астатнія мовы па колькасці носьбітаў мовы (каля 90 мільёнаў; ва ўсім свеце іх у цэлым 120 мільёнаў) і па колькасці дзяржаў, у якіх яна з'яўляецца афіцыйнай мовай (сем дзяржаў), а ў якасці замежнай мовы яна займае другое месца пасля англійскай і апярэджвае французскую.*

ЛІЧБА ДНЯ

## 113 долараў

*Столькі ў сярэднім траціць адзін беларус у год на медыцынскія прэпараты.*

Як адзначыў намеснік дырэктара па навуковай рабоце Інстытута біяарганічнай хіміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі **Пётр Пятроў,** Беларусь па гэтым паказчыку займае лідзіруючую пазіцыю ў СНД, саступаючы толькі Расійскай Федэрацыі.

КРЫМІНАЛ

## Не працавалі і арганізавалі банду

Следчым камітэтам Беларусі завершана расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да арганізаванай злачыннай групы, якая прымушала грамадзян браць крэдыты і забірала гэтыя грошы. Пацярпелымі прызнаны 29 чалавек. Усяго грамадзянамі было аформлена грашовых крэдытаў прыкладна на 300 млн рублёў. Усе гэтыя сродкі перадаваліся злачынцам.

Як паведаміла прэс-служба Следчага камітэта Беларусі, злачынная група складалася з пяці непрацуючых маладых людзей і дзейнічала на тэрыторыі Мінскай вобласці. Незаконная дзейнасць была адзінай крыніцай даходаў яе членаў. Кіраўніком злачыннага фарміравання быў раней неаднаразова судзімы 22-гадовы жыхар Мінскай вобласці.

Злачынная група займалася ў асноўным тым, што прымушала грамадзян браць крэдыты ў банкаўскіх установах і потым авалодвала атрыманымі грашыма. Для прымушэння грамадзян да здзяйснення здзелак члены арганізаванай групы ўжывалі пагрозы, фізічны гвалт, абмежаванне волі. Пры гэтым выкарыстоўваліся загадзя набытая і падобная на баявую агнястрэльная зброя, электрашокер, кайданкі. Функцыі паміж удзельнікамі былі строга размеркаваны. Усе дзеянні старанна планаваліся і абмяркоўваліся ў групе.

Злачынствы ўчыняліся на працягу чатырох месяцаў са жніўня 2013 года. У лістападзе рабаўнікі былі затрыманы. Следствам прад'яўлены канчатковыя абвінавачанні ўсім удзельнікам групы па дзевяці артыкулах Крымінальнага кодэкса. Абвінавачаныя знаходзяцца пад вартай. Матэрыялы крымінальнай справы перададзены пракурору для накіравання ў суд.

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# Где растет шишка высокомерия

К штрафам ГАИ я отношусь со сдержанным пониманием: а не гоняйте! Но когда два раза за один месяц по почте мы, благодаря камерам видеорегистраторов на дорогах, получили "письма счастья", я почувствовала, что моя толерантность к ГАИ имеет пределы. Причем штрафы за превышение скорости на 10 километров муж, оказывается, заработал на одном и том же месте на трассе Минск—Гродно. Каково? Поэтому, снова собираясь в вояж по этому же маршруту, решили соблюдать скоростной режим, как школяры: буквально до километра. Чтобы проверить эти самые камеры. Не ловушка ли? Хотя, конечно, подсасывала душу и простая досада: как могли так лопухнуться?

В общем, ехали строго. И нас беспардонно обгоняли на крейсерской скорости, как чернорылые акулы-мако, автомобили с "блатными" номерами, а также с зарубежными дипломатическими. Последние мчались по трассе к литовской границе явно под 130—150 километров в час. Кстати, на этой трассе, кто не помнит, как минимум с десяток пешеходных переходов у населенных пунктов. Интересно, водитель вообще успевает заметить разметку на дороге при таком великолепном полете в пространстве?

Мы даже не возмущались, мы тихо ужасались, с кем приходится делить дорогу и жизнь. Вернулись домой и раз — жуткая новость: белорусский посольский автомобиль марки "Мерседес", мчавшийся из Минска в Москву, столкнулся с "ВАЗ-2014". И раздавил его как букашку. Наша газета сообщала о трагедии под Смоленском в позапрошлом номере. Две женщины-пассажирки — насмерть, водитель в тяжелом состоянии, бедные "Жигули" разорвало пополам. Посольский "Мерседес" тоже покорежило, но все, слава Богу, живы, даже не ранены. Что ж, тяжелый немецкий автомобиль, с усиленным каркасом кузова, наверное. Шофер, писали информационные агентства, остался давать показания на месте ДТП, а посол-пассажир, рассказали очевидцы, на другом автомобиле довольно скоро уехал на место службы для дальнейшего выполнения государственных поручений.

Во как! Меня почему-то передернуло. Что может быть важнее, чем жизнь человека? Но чиновник, не теряя времени, уехал... А как надо было? По-моему, сидеть и отвечать дипломату наравне с шофером. Быть рядом. Сопереживать. Принять как должное все моральные тернии и физические неудобства, оставаясь в незнакомом населенном пункте без VIP-условий. То есть быть простым человеком.

Пока идет следствие, точную скорость дипломатического автомобиля в момент аварии у ГИБДД Смоленской области выяснить не удалось. По предварительной информации правоохранительных органов, виноваты "Жигули".

Это правовая оценка. Юридический язык безжалостен: виноваты жертвы... Расплатились по полной. Значит, по нулям. Две души отправлены на небеса, одна жизнь тяжко покалечена, еще не известно, вытянут ли почти с того света ее врачи. А "Мерседес", получается, ни при чем. Но, мне кажется, если бы у "Мерседеса" на спидометре было 90—100, то его водитель, ас по определению — другие в МИД не работают, смог бы попытаться ДТП предотвратить, смягчить. Однако большинство посольских машин, по моим житейским наблюдениям, игнорируют скоростной режим на дорогах. Им можно? Слава Богу, нам, большинству, нельзя. Вседозволенность — она имеет предел. Сестра преступления. Мать всех трагедий.

Вот ведь человек так подленько устроен, что на какой бы ступеньке общественного положения ни находился, хочет отличить себя хоть маленькими, но привилегиями. Ложная влиятельность, но такая сладкая и доступная любому незатейливому уму. Картинка с натуры, прочитала у "френда" на "Фэйсбуке". Садится в салон автомобиля молодая женщина. Водитель напоминает: "Пристегнись!" Она весело отвечает: "Не бойся! У меня удостоверение". Тогда водитель трогается с места и сразу резко тормозит. Барышня стукается лбом о панель. Не сильно, но неприятно, конечно. "Ну что, помогло тебе твое удостоверение?" — спрашивает даму человек за рулем. Она с бранью вылетает из салона. Уточню, они родственники, в добрых семейных отношениях. Потому и решился водитель на наглядный, хотя и жесткий, урок. Запомнит ли его кичливая пассажирка? Если не дурочка с переулочка, должна сказать "спасибо" ему, хотя бы мысленно. Здоровому человеку по силам дать самому себе оценку. Каждому из нас не лишне время от времени потирать шишку высокомерия — не выросла ли, не болит, не чешется? Кстати, если она легко не обнаруживается на ощупь, это не значит, что у вас ее нет.

ПРЭЦЭДЭНТ

# ЗаМОВА

***Кантынентальная хакейная ліга спрабавала забараніць мінскаму "Дынама" праводзіць пасляматчавыя прэс-канферэнцыі на беларускай мове. Але беларускі клуб адстаяў права беларусамі звацца...***

Сталічны хакейны клуб сутыкнуўся з моўнай праблемай днямі — пасля матча з новасібірскай "Сібірью" кіраўнік прэс-службы мінскага клуба **Раман Стронгін** праводзіў прэс-канферэнцыю па-беларуску. Інспектар гульні звярнуў на гэта ўвагу і данёс у галаўны офіс Кантынентальнай хакейнай лігі. Там адрэагавалі маланкава — загадалі, каб прэс-канферэнцыі праводзіліся па-руску. У выпадку невыканання супраць мінскага клуба могуць быць ужыты карныя санкцыі.

Адзначым, што ў Рэгламенце Кантынентальнай хакейнай лігі па камунікацыях і маркетынгу няма пункта, які абавязваў бы клуб размаўляць з журналістамі па-руску. Аднак такі пункт знайшоўся ў спартыўным рэгламенце КХЛ. Ён гучыць так:

*"Пресс-конференция должна проводиться на русском языке.*

*Обязанность по обеспечению (в случае необходимости) перевода на русский язык выступлений участников пресс-конференции возлагается на Хоккейные Клубы, являющиеся работодателями этих участников (Главных тренеров или замещающих их лиц)".*

Таму апошнюю хатнюю прэс-канферэнцыю пасля матча з хакейным клубам "Сочи" Раман Стронгін быў вымушаны праводзіць па-руску.

*"Мы сутыкнуліся з гэтай праблемай упершыню,* — распавёў ён "Народнай Волі". — *Раней я заўжды праводзіў пасляматчавыя сустрэчы журналістаў з трэнерамі на беларускай мове. Пытанні задаваліся на той мове, на якой зручна, трэнеры адказвалі таксама на зручнай для іх мове.*

*Пасля заўвагі інспектара гульні з "Сибирью" ў клуб прыйшоў ліст з Масквы — Кантынентальная хакейная ліга, спасылаючыся на нормы спартыўнага рэгламенту, патрабавала, каб прэс-канферэнцыі праводзіліся па-руску. Мы вымушаны былі падпарадкавацца".*

Аднак навіна пра забарону выкарыстання беларускім клубам роднай мовы шакіравала балельшчыкаў. Наведвальнікі інтэрнэт-форумаў заклікалі ігнараваць патрабаванне. "Замова!" — абураліся некаторыя, шукаючы палітычны падтэкст у дзеяннях кіраўніцтва КХЛ. У сеціве гучалі прапановы да простых заўзятараў: давайце пісаць звароты ў дырэктарат КХЛ, патрабуючы захаваць беларускую мову! Некаторыя хакейныя балельшчыкі нават прапаноўвалі даведацца пра суму штрафу, які быў бы накладзены на "Дынама" за ўжыванне беларускай мовы, і скідвацца на яго аплату.

Сапраўды, Кантынентальная хакейная ліга з'яўляецца міжнароднай арганізацыяй, пад эгідай якой гуляюць славацкія, фінскія, казахскія, латышскія і расійскія клубы. Уявіць, што ў замежжы пасля сустрэчы браціслаўскага "Слована" і хельсінкскага "Ёкерыта" прэс-канферэнцыі будуць праводзіцца па-руску, проста немагчыма. Гэты прыклад прыведзены для таго, каб падкрэсліць: закон, а ў нашым выпадку хакейны рэгламент, для ўсіх адзін.

Учора высветлілася: сітуацыя вырашылася. Навіной з "Народнай Воляй" падзяліўся Раман Стронгін:

*"Скажам так: кіраўніцтва нашай каманды занепакоілася сітуацыяй, якая склалася,* — адзначыў прэс-сакратар "Зуброў". — *У Маскву быў накіраваны адпаведны ліст ад імя мінскага "Дынама". У выніку быў дасягнуты кампраміс — з наступнага хатняга матча прэс-канферэнцыі будуць праводзіцца на дзвюх мовах — беларускай і рускай".*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

МОДЕРНИЗАЦИЯ

# «Бесплатную» медицину белорусы оплачивают из собственного кармана»

***Ни цена, ни качество "бесплатной" медицины белорусов не удовлетворяют. Реформа сферы здравоохранения является наиболее востребованной среди белорусов, о чем свидетельствует соцопрос, проведенный по заказу BISS в рамках проекта "Реформум".***

Одну из центральных ролей в реформировании здравоохранения эксперты отводят страховой медицине. Основная масса населения смутно представляет, что это такое, и инстинктивно побаивается лишиться медицины "бесплатной".

Но так ли страшен черт, как его малюют? Ищем ответы вместе с экспертом "Либерального клуба" **Никитой Беляевым**.



**— Что собой представляет медицинское страхование? Белорусы не знают, что это такое, а потому боятся его, как черт ладана.**

— Это такой вид страхования, когда клиент оплачивает страховку, которая в течение года покрывает его обращения в поликлиники, больницы, возможное лечение. Объем предоставляемых услуг зависит от стоимости и типа полиса — какие виды лечения от каких болезней включены в страховку.

В России существует обязательное медицинское страхование, при котором медполис покрывает общие заболевания. Для большего покрытия болезней граждане прибегают к добровольному страхованию.

В Беларуси сегодня существуют два виды страхования: добровольное и обязательное. Обязательное применяется в отношении иностранных граждан, а добровольное может заключить каждый из нас. Средняя стоимость страховки колеблется в пределах 5—6 миллионов, хотя, безусловно, в каждом конкретном случае цена определяется перечнем случаев, которые мы вписываем в полис.

В целом система страхования зависит от решений, которыми регулируется сфера здравоохранения. Если, допустим, произойдет отказ от "бесплатной" медицины, качество обслуживания в больницах может улучшиться. С другой стороны, медстрахование приведет к росту стоимости услуг. Все зависит от состояния здоровья каждого конкретного человека и частоты его обращений в больницы и поликлиники.

Страховка заставит белорусов задуматься о своем здоровье: за каждый поход к врачам придется платить из своего кошелька.

**— Насколько популярно в Беларуси медицинское страхование?**

— При существовании "бесплатной" медицины страхование не пользуется особой любовью. В обязательном порядке им пользуются юридические лица, которые устраивают на работу иногородних или иностранных граждан и заключают с конкретным медицинским центром договор на обслуживание своих работников.

К добровольному заключению соответствующих договоров прибегает очень малый процент граждан — главным препятствием является "бесплатная" медицина.

**— А специалисты проводили исследования, что выгоднее: "бесплатная" медицина или медицинское страхование?**

— Проблема заключается не только в стоимости последнего. Обязательное медицинское страхование предполагает существенное улучшение качества предоставляемых услуг, потому что больше денег направляется на медицину. Хотя многое зависит от того, куда эти средства направляются потом: остаются в больнице, идут в местный или республиканский бюджет.

Сейчас в Беларуси страхованием занимаются частные и государственные компании. Например, человек ложится на операцию — ее оплачивает структура, с которой у него заключен договор. А вот куда деньги из больниц уходят дальше — большой вопрос.

Если не будет пересмотрена вся система перераспределения средств, медстрахование не решит проблему.

**— Насколько велика вероятность его введения в Беларуси? Каковы наиболее реалистичные пути достижения этой цели?**

— В сегодняшней Беларуси медицинское страхование — политический вопрос. Здравоохранение является частью социальной политики. Большой-большой вопрос, как сами белорусы отнесутся к введению этой новации, поскольку большинство из нас очень чувствительно к "бесплатным" благам, предоставляемым государством. Для начала нужно изучить общественное мнение — готовы ли белорусы поменять "бесплатную" медицину на медицинское страхование? До сих пор подобных исследований или соцопросов никто не проводил.

Решит ли введение страховок проблемы медицины, существующие в Беларуси? Возможно, увеличится цена обслуживания, но качество останется прежним. Готовы ли граждане к такому повороту?

Риторические вопросы. Потому что на самом деле ничего бесплатного не бывает: у нас берут налоги, нам приходится рассчитываться за оказанную врачами помощь... Вот и выходит: за "бесплатную" медицину мы платим сполна из собственного кармана.

**Владимир ЖУРАВОК.**

ЗАКУЛІССЕ

## Чытачы за Алексіевіч, журы за Прылепіна

*У Расіі вызначаны пераможцы літаратурнай прэміі "Большая книга". Лаўрэатам стаў Захар Прылепін за раман "Обитель". А ў чытацкім галасаванні перамагла Святлана Алексіевіч. Яе раман "Время секонд хэнд" чытачы паставілі на першае месца.*

Прэмія "Вялікая кніга" расійская, сярод яе заснавальнікаў Міністэрства культуры РФ, Федэральнае агенцтва па друку і масавых камунікацыях, Усерасійская тэлерадыёкампанія. На атрыманне прэміі вылучаюцца творы, напісаныя на рускай мове, і аўтарскія пераклады твораў, першапачаткова напісаных на іншых мовах. "Большая книга" — другая па велічыні літаратурная ўзнагарода ў свеце па памеры прызавога фонду пасля Нобелеўскай прэміі па літаратуры. Яе прэміяльны фонд складае 6,1 мільёна расійскіх рублёў. Пераможца атрымлівае 3 мільёны, уладальнікі другога і трэцяга месца 1,5 мільёна і 1 мільён адпаведна. Сёлета другая прэмія ва Уладзіміра Сарокіна за раман "Теллурия", трэцяя — у Уладзіміра Шарова за кнігу "Возвращение в Египет".

Яшчэ напярэдадні вызначэння пераможцаў беларуская пісьменніца **Святлана Алексіевіч** паведаміла, што вельмі некамфортна пачувае ў шорт-лісце разам з Захарам Прылепіным: "*Справа ў тым, што гэты чалавек абсалютна іншых перакананняў. Я лічу, што пісьменнік, які прапаведуе вайну, абараняе яе і яму гэта падабаецца, — гэта не пісьменнік, не прафесіянал. Гэта чалавек нейкай іншай прафесіі".* Як вядома, Захар Прылепін ва ўкраінскім канфлікце заняў бок сепаратыстаў, нядаўна наведаў так званыя ДНР і ЛНР і апублікаваў у "Комсомольской правде" свае дзённікі з "Наваросіі".

Калі 24 лістапада скончылася традыцыйнае чытацкае галасаванне "Большая книга", паводле якога першае месца атрымала Святлана Алексіевіч, а другое — Захар Прылепін, беларуская пісьменніца сказала журналістам: *"У народным галасаванні я перамагла Захара Прылепіна. Гэта мяне пераканала ў тым, што не ўсе тут з'ехалі з глузду і не ўсіх захапіла мілітарысцкая істэрыя. Мне здаецца, што людзі самі збянтэжаны і разгублены. Ёсць нармальныя людзі. Народнае галасаванне мяне вельмі парадавала. Нават не з-за таго, што я перамагла, а з-за таго, што не атрымаў першага месца Захар Прылепін, які вельмі нахабна ішоў да перамогі".*

Дарэчы, за час існавання ўзнагароды яе лаўрэатамі сталіся Дзіна Рубіна і Людміла Уліцкая, якая апошнім часам адкрыта крытыкуе палітыку Пуціна ў адносінах да Украіны.

